

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***


# наша СЛОВА.pdf



**Другі год выдання** **№ 17 (69) 26 красавіка 2023 г.**


# Радуніца напярэдадні ўгодкаў Чарнобыльскай катастрофы

25 красавіка Беларусь адзначыла Радуніцу - Дзень памінання продкаў. 26 красавіка - чарговыя ўгордкі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

У розных рэгіёнах Беларусі розныя традыцыі, але нідзе не абходзіцца без наведвання могілкаў.

На Радаўніцу прынята прыбіраць магілы, пасыпаць іх і прылеглую тэрыторыю свежым пясочкам, а ў некаторых раёнах яшчэ, так бы мовіць, "апранаюць" крыжы. На Палессі можна заўважыць, як на помнікі ці агароджу павязваюць новыя стужкі, фартушкі і ручнікі. Лічылася, што такім чынам памерлым нібы даюць новае адзенне.

У асобных мясцовасцях вадзілі карагоды, але ж гэта не танцы, а своеасаблівы рух, які стваралі людзі, узяўшыся за рукі.






Праводзяцца крыжовыя шэсці з абразамі вакол могілак і г.д.

Традыцыйна ў гэтыя дні людзі наведваюць могілкі на адселеных тэрыторыях Чарнобыльскай зоны. За два першыя дні Радаўніцы могілкі наведалі тысяча трыста восемдзесят чалавек. Самыя наведвальныя могілкі - у былых вёсках Вуглы і Дзёрнавічы - па трыста- чатыраста, нават і да паўтысячы чалавек прыяджае.

Сёлета адбылося асвячэнне новай капліцы на могілках вёскі Дзёрнавічы. Працэсію асвячэння і першую літургію правёў прасвяцейшы Леанід - япіскап Тураўскі і Мазырскі разам з дабрачынным Мазырскай сельскай акругі пратаіярэям Генадзем Несцярэням і пратаіярэям храма вёскі Вербавічы Нараўлянскага раёна Пятром Бусям. На цырымоніі адкрыцця капліцы разам з былымі жыхарамі прысутнічаў і старшыня Нараўлянскага райвыканкама Уладзімір Антоненка, які таксама нарадзіўся ў вёсцы Дзёрнавічы, і пры яго падтрымцы ўзнік і рэалізаваўся праект пабудовы святыні.




Да некаторых былых вёсак сёлета дабрацца было вельмі цяжка, а недзе і немагчыма з-за высокага ўзроўню паводкавых вод.

***Паводле СМІ.***

*Фота Анатоля Кляшчука, "Звязда".*

# Х ЛІДСКІЯ ЧЫТАННІ

19 красавіка 2023 года Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы ў дзясяты раз запрасіла да сябе навукоўцаў, краязнаўцаў і ўсіх зацікаўленых гісторыяй людзей на навукова-практычную канферэнцыю "Лідчына праз сем стагоддзяў" у рамках "Х Лідскіх чытанняў".

Распачатыя яшчэ ў 2013 годзе "Лідскія чытанні" сталі штуршком ва ўдасканаленні ведаў пра свой родны край, у назапашванні краязнаўчай інфармацыі і фармаванні краязнаўчых рэсурсаў, ушанаванні імёнаў вядомых землякоў; вывучэнні і папулярызацыі гістарычна-культурнай спадчыны Лідскага краю.

Шырокі спектр тэм - "Ліда ў гады Першай Сусветнай вайны", "Папулярнасць творчасці Францішка Багушэвіча ў Лідзе", "100 год афіцыйнай беларускай школе на Лідчыне", "500-годдзе беларускага кнігадрукавання", "Лідчына: учора, сёння і заўтра", "Гродзеншчына: летапіс працягваецца", "Вайна і памяць старонкі гісторыі Лідскага краю", "Лідчына ў мастацкай літаратуры" - падымаўся падчас штогадовых канферэнцый.

У 2023 годзе навукова-практычная канферэнцыя "Лідчына праз сем стагоддзяў" з'яўляецца адной з найважнейшых падзей сярод бібліятэчных мерапрыемстваў года, прымеркаваных да 700-годдзя з часу заснавання г. Ліды.

У канферэнц-зале разгарнулася кніжная выстава "Горад мой, ты песня і легенда", якая прадставіла гістарычныя матэрыялы аб г. Лідзе, знаёміла з яго сучасным станам, дасягненнямі і перспектывамі развіцця. На выставе былі прадстаўлены кнігі пра знакамітых людзей Лідчыны, якія ўнеслі пэўны ўклад у развіццё роднага краю. Тут жа можна было пазнаёміцца з гісторыяй правядзення "Лідскіх чытанняў".




Пачаліся чытанні тэатралізаваным пралогам, які падрыхтавала Ангеліна Іванаўна Тучкоўская, студэнтка 3 курса гуманітарнага аддзялення Лідскага каледжа УА

700 ЛІДА 1323-2023

Дзяржаўная ўстанова культуры
*"Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы"*

*Паважаныя жыхары горада Ліды і Лідскага раёна!*

**Запрашаем Вас прыняць удзел у навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 700-годдзю з дня заснавання горада Ліды**

**«ЛІДЧЫНА ПРАЗ СЕМ СТАГОДДЗЯЎ»**

**"Х ЛІДСКІЯ ЧЫТАННІ"**

*Месца правядзення:*
**Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы**
*(г.Ліда, вул. Ленінская, д. 10, канферэнц-зал, 3 паверх)*

**19 красавіка 2023 года 11:00**

12+



"Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы". У вобразе прыгожай князёўны яна распавяла легенду аб паходжанні назвы горада.

Першы даклад "Старажытная Ліда на Каменцы" падрыхтаваў Леанід Лявонцьевіч Лаўрэш, які сваімі краязнаўчымі даследаваннямі робіць значны ўклад у пашырэнне ведаў пра гісторыю Лідчыны. Прадставіў дадзены даклад лідскі краязнавец Станіслаў Вацлававіч



*Легенду пра Лиіду чытае Ангеліна Тучкоўская*

Суднік, па ініцыятыве якога некалі і пачалі праводзіцца "Лідскія чытанні".

Літаральна нядаўна, з'явілася цікавае даследаванне на тэму "Герб горада Ліды, як гістарычна-геральдычны помнік Беларусі", якое зрабіла Анашкевіч Наталля Мікалаеўна, выкладчык рускай мовы і літаратуры ДУА "СШ № 11 г. Ліды", кіраўнік метадычнага аб'яднання па духоўна-маральным выхаванні. Прысутным вельмі цікава распавялі пра гісторыю і значэнне сімвалаў герба Ліды. Наталля Мікалаеўна паказала рэальныя дакуметы міжваеннай Польшчы з выявамі герба Ліды, які, што тады, што цяпер - аднолькавы.



*Наталля Анашкевіч*

Краязнавец Суднік Станіслаў Вацлававіч у сваім дакладзе звярнуў увагу прысутных да "Пытання існавання і месцазнаходжання Дайнаўскага княства". Асноўныя вывады з даклада:

1. Дайнаўскае або Яцвяжска-Дайнаўскае княства існавала і як удзельнае княства ўвайшло ў склад ВКЛ



*Станіслаў Суднік*

(яцвягі і дайнава - сінонімы, дзве назвы аднаго народа);

2. Дайнаўскае княства было даменным княствам Вялікага князя Трайдзеня, а потым даменным княства наступных вялікіх князёў;

3. Да апанавання яцвягаў (заходня дайнавы) Нарымонт і Трайдзень хутчэй за ўсё ўжо валодалі ўсходняй Дайнавой;

4. Большасць навукоўцаў размяшчае сталіцу гэтага княства пад Лідай. Заснаванне Трайдзенем Райгорада не абазначае пераносу туды сталіцы. Райгорад - гэта фарпост Дайнаўскага княства для адпору крыжакам. Трайдзень заснаваў яшчэ і Коўню (Каўнас) з той жа мэтай;

5. Ліда ў 13-м стагоддзі не была сталіцай Дайнаўскага княства. Гэта было славянскае (дрыговіцкае) паселішча;

6. Пасля пабудовы Лідскага замка Вялікі князь Гедымін перанёс сталіцу Дайнаўскага княства ў Ліду. З



№ 17 (69) 26 КРАСАВІКА 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

пераносам сталіцы ў Ліду Дайнаўскае княства паступова пачало называцца Лідскім княствам і ўключала ўжо не толькі дайнаўскія, але і славянскія землі паўднёвай Лідчыны ажно да Нёмана.

Пры гэтым Гедымін адрэзаў частку дайнаўскай тэрыторыі і ўтварыў Віленскае княства;

7. Вялікі князь Вітаўт ліквідаваў Лідскае княства і ўключыў яго ў Віленскае княства;

8. Ліда была сталіцай Дайнаўскага (пазней Лідскага) княства каля 90 гадоў (прыблізна ад 1330 да 1420 г.).

9. Даўнішнішнія яцвяжскія землі на сёння разарваны на тры вялікія часткі:

- частка Дайнавы і Яцвягіі, Нальшаны і ўласна летапісная Літва - у Беларусі;

- частка Дайнавы (Віленскі край) і Дзяволтва - у Літве;

- частка Яцвягіі (Падляшша) і ўсходняя Судавія (Сувалкія) - у Польшчы, а разам гэта адзін этнас.

Вельмі змястоўнымі атрымаліся выступленні студэнтаў Лідскага каледжа УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы". Адметна тое, што іх работы другі год займаюць годнае месца сярод прац сталых навукоўцаў у зборніках матэрыялаў, што рыхтуюцца раённай бібліятэкай.

Ус Настасся Аляксандраўна, студэнтка 2-га курса гуманітарнага аддзялення, пазнаёміла з адной са старэйшых вуліц нашага горада падчас даклада "Ад Віленскай да Савецкай: гісторыя вуліцы Савецкай".



***Настасся Ус***

Жэбянёва Паліна Іванаўна, студэнтка 1 курса будаўнічага аддзялення, узгадала гісторыю выдатнага помніка абарончага мастацтва XIV стагоддзя - Лідскага замка.

Пра "Гісторыю завода "Лідскае піва"", які з'яўляецца найстарэйшай з дзейных піваварных вытворчасцей Беларусі, паведаміла Ярэц Настасся Сяргееўна, студэнтка 1 курса будаўнічага аддзялення. Удзельнікі чытанняў з захапленнем слухалі гісторыю лідскага бровара, які зрабіў горад піўной сталіцай Беларусі.



***Паліна Жэбянёва***




***Настасся Ярэц***

Выступленне Дудзевіч Валерыі Станіславаўны, студэнткі 2 курса гуманітарнага аддзялення, дапамагло здзейсніць віртуальнае падарожжа па галоўных святынях горада Ліды. Між іншым цікава было пачуць, што падзячны медальён князю Канстанціну Астрожскаму, які так няпроста ўстанаўліваўся, цяпер з’яўляецца мастацкай каштоўнасцю Свята-Георгіеўскай царквы-помніка.




***Валерыя Дудзевіч***

Смаляк Іван Аляксандравіч, вучань 11 класа ДУА "Ліцэй № 1 г. Ліды", прадставіў даклад "Цяпло школьных сцен: побыт выхаванцаў і настаўнікаў ліцэя ўчора і сёння". Былі разгледжаны два бакі гісторыі навучальнай

установы: архітэктурная гісторыя і гісторыя навучальнага працэсу.



**Іван Смаляк**

Галоўны бібліёграф раённай бібліятэкі Курбыка Галіна Раманаўна пазнаёміла прысутных з гістарычнымі творамі, якія паказваюць шырокую панараму жыцця лідзян з традыцыямі, укладам жыцця, гістарычнымі падзеямі.




**Галіна Курбыка**

Жыццё звязала з Лідскім краем імёны многіх вядомых у Беларусі майстроў слова, мастакоў, музыкантаў, артыстаў, спартсменаў, навукоўцаў з розных сфер. Даклад Хітруна Аляксандра Часлававіча, навуковага супрацоўніка ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей", дазволіў пазнаёміцца са знакамітай ураджэнкай Лідчыны, заслужанай артысткай Беларусі - Ганнай Радзько.




**Алесь Хітрун**

Цікавым і пранікнёным было выступленне Кір'янавай Алесі Сяргееўны, афіцэра па арганізацыі вольнага часу і тэхнічных сродках выхавання, начальніка клуба 116-й Лідскай гвардзейскай штурмавой авіяцыйнай базы. Удзельнікі чытанняў з вялікай увагай слухалі пра мужнасць і гераізм, праяўленыя пры выкананні воінскага абавязку лётчыкамі Андрэем Нічыпорчыкам і Мікітай Куканенкам, і пра мемарыялізацыю іхняй памяці на Лідчыне і ў Баранавічах



**Алеся Кір’янава**

Важна адзначыць, што па выніках канферэнцыі супрацоўнікамі Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы будзе выдадзены друкаваны зборнік дакладаў "X Лідскія чытанні", а потым прапанаваны карыстальнікам і ў электронным варыянце на сайце галоўнага кнігасховішча Лідчыны. Папаўненне краязнаўчай скарбонкі стане здабыткам шырокай аўдыторыі аматараў мясцовай даўніны.



Публікацыя матэрыялаў папярэдніх канферэнцый "Лідскія чытанні" выклікае цікавасць з боку спецыялістаў-гісторыкаў і шматлікіх чытачоў розных пакаленняў.

***Дар’я Марцінкевіч,***
*загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.*





*На літаратурнай хвалі*

# Завіталі ў Ліду паэты з горада над Шчарай

Літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" мацуе сувязі як з Гарадзенскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, так і з рэгіянальнымі літаратурнымі суполкамі. На днях у госці да лідскіх літаратараў завітала дэлегацыя паэтаў са Слоніма - прадстаўнікі Слонімскага раённага літаратурнага аб'яднання імя Анатоля Іверса Ірына Войтка (кіраўнік літаб'яднання), Тамара Пяцеліна, Надзея Салейка. Сустрэча адбылася ў Лідскай раённай бібліятэцы ў рамках чарговага пасяджэння "Суквецця".





Перадгісторыя гэтай сустрэчы звязана з новым праектам Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі - літаратурным рэгіён-фэстам. Мэта гэтага доўгатэрміновага фестывалю рэгіянальнай літаратуры, які не мае аналагаў у Беларусі, - пазнаёміць грамадскасць з творчасцю літаратараў з розных раёнаў Гарадзеншчыны. Стартаваў Гарадзенскі літаратурны рэгіён-фэст у кастрычніку мінулага года з прэзентацыі творчасці літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". А ўжо ў лістападзе ў Гародні адбыўся яго другі тур - на гэты раз сваю творчасць прэзентавала Слонімскае раённае літаратурнае аб'яднанне імя Анатоля Іверса. Два літаб'яднанні пазней праглядзелі відэазапісы сваіх выступленняў у Гародні, лідзяне праглядзелі выступленне слонімцаў, а слонімцы - лідзян, і тыя, і другія ўразіліся ўбачаным і вырашылі бліжэй пазнаёміцца паміж сабой.

Суквеццеўцы першымі запрасілі да сябе ў госці слонімскіх калег па літаратурным цэху, і на днях дэлегацыя паэтаў з горада над Шчарай завітала ў Ліду, падчас чарговага пасяджэння літаб'яднання "Суквецце" ў раённай бібліятэцы сустрэлася з лідскімі літаратарамі. Кіраўнік слонімскага літаб'яднання Ірына Войтка расказала пра ўзначальваемы ёю калектыў творчых людзей, усе тры паэтэсы расказалі пра сябе, чыталі перад слухачамі свае вершы - пра сінявокую Беларусь, пра родны горад Слонім, пра родную мову, пра паэзію і паэтаў, філасофскую лірыку, - Надзея Салейка да таго ж выканала некалькі песень. Госці перадалі ў дар бібліятэцы зборнікі сваіх вершаў, а таксама альманах "Старонка". Мелі магчымасць набыць зборнікі і лідскія паэты.



Вось ужо шмат гадоў суполка літаратараў Слонімшчыны носіць імя вядомага земляка, удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху, паплечніка Максіма Танка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, паэта Анатоля Іверса (сапраўдныя імя і прозвішча - Іван Міско). Гэтае імя даў аб'яднанню яго былы кіраўнік, удзельнік









вайны ў Афганістане Іван Сяргейчык (яго кніга афганскай прозы "Без права на літасць" была перададзена ў дар Лідскай раённай бібліятэцы гасцямі са Слоніма падчас сустрэчы). У слонімскага літаб'яднання выходзіць свая літаратурная старонка пры раённай газеце "Слонімскі веснік" (як і ў нашага "Суквецця" пры "Лідскай газеце"). Выйшлі тры калектыўныя зборнікі з творчасцю пісьменнікаў Слонімшчыны: "Золак над Шчарай" (1994), "Пад гукі паланэза" (2005) і "Старонка" (2019, да Дня беларускага пісьменства ў Слоніме). Выдадзена каля дваццаці кніг сяброў літаб'яднання. Шмат гадоў слонімскай літаратурнай суполкай кіруе член Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтэса Ірына Антонаўна Войтка, якая прайшла працоўны шлях ад выхавальніка да загадчыцы беларускамоўнага дзіцячага садка. Выйшлі тры яе кнігі паэзіі: "Спасціжэнне", "Пагляджу вачамі неба" і "Кранаюся вечнасці".

Найстарэйшая з гасцей, Тамара Афанасьеўна Пяцеліна, родам з Новасібірскай вобласці, але ўжо больш за 60 гадоў жыве ў Слоніме, куды некалі пераехала да месца службы мужа. Горад над Шчарай даўно стаў для яе другой радзімай. Нядаўна ўбачыла свет яе другая кніга вершаў "А я пройду по сентябрю". Тамара Афанасьеўна - жанчына вельмі актыўная. Доўгі час спявала ў слонімскім хоры ветэранаў "Памяць", кіруе клубам "Ліра" пры Слонімскім цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Надзея Пятроўна Салейка - паэтэса, аўтар і выканаўца песень, член СПБ, аўтар кніг паэзіі "Перекресток", "Портрет души", "В разомкнутом круге". А яшчэ яна жывапісец, графік, разьбяр, скульптар-кераміст. Пра яе знята некалькі дакументальных фільмаў.

Суквеццеўцы і работнікі бібліятэкі цёпла, гасцінна прынялі паэтэс са Слоніма. Лідскія паэты таксама чыталі гасцям свае вершы, галоўны бібліёграф раённай бібліятэкі Галіна Курбыка правяла для гасцей экскурсію ў чытальны і абанементны залы. Цеплыню сваіх сэрцаў дарылі праз



творчасць прысутным і самі госці. Лідскія калегі па пяры атрымалі асалоду ад іх выступленняў, штосьці з іх творчага почырку і манеры чытання пачарпнулі для сябе. Яшчэ бліжэй пазнаёміцца з творчасцю лідзян слонімскія паэты цяпер маюць магчымасць, чытаючы 9-ы і 10-ы літаратурна-мастацкія зборнікі "Ад лідскіх муроў", падораныя ім рэдактарам зборнікаў, паэтам, краязнаўцам Станіславам Суднікам.

У заканчэнне сустрэчы дэлегацыя слонімскіх паэтаў запрасіла суквеццеўцаў да сябе ў Слонім. А значыць, сяброўства двух літаб'яднанняў будзе працягвацца і мацнець.

***Аляксей КРУПОВІЧ.***





# 20-годдзе літаратурнага аб'яднання "Ліра"

Літаратурнае аб'яднанне "Ліра" нарадзілася ў гарадскім доме культуры (г. Баранавічы) у 2003 годзе. Заснавальнікам і кіраўніком аб'яднання стала паэтка Шувалава Людміла Аркадзеўна. У першы склад (17 чалавек) уваходзілі як пачаткоўцы, так і вядомыя паэты горада: Станкевіч Анатоль, Жук Настасся Андрэеўна, Зайцаў Максім Фёдаравіч.

Амаль за 20 год састаў "Ліры" павялічыўся да 27 удзельнікаў. Клуб удзельнічае ва ўсіх грамадскіх мерапрыемствах у Баранавічах, а таксама за межамі горада. "Ліраўцы" кожны год прымаюць удзел у свяце "Дзень пісьменства і друку", на юбілеях Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Сябры клуба "Ліра" друкуюцца ў СМІ Рэспублікі Беларусь: газеце "Наш край", абласной газеце "Заря", выданні "Друг пенсионера" і многіх іншых.

Аб'яднанне мае сваіх зорных людзей. Такім чалавекам з'яўляецца Марыя Мікалаеўна Філіпава, якая нарадзілася у 1948 годзе. Паэтка скончыла Берасцейскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А.С. Пушкіна. Выдатнік народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь, уладальнік гранта Баранавіцкага гарвыканкама "За асаблівы ўклад у развіццё сістэмы адукацыі" (2022). Друкавалася ў розных перыядычных выданнях, у калектыўных зборніках "Купальскія зоры", "На крылах натхнення", "Крыніца дабрыні". Аўтар кніг вершаў "Жизнь луговая", "Па забытай сцяжынцы", зборніка апавяданняў "Зялёная вуліца". Пераможца Берасцейскага абласнога конкурсу "Слёзы сясцёр Хатыні", які праводзіла абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Узнагароджана дыпломам пераможцы (2022).



Яшчэ адной зоркай "Ліры" з'яўляецца Раіса Міхайлаўна Раманчук, якая нарадзілася 20 красавіка 1957 г. у вёсцы Літараўшчына Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці. Першыя вершы былі надрукаваны ў газеце Баранавіцкага баваўнянага аб'яднання "Текстильщик". Актыўна займалася грамадскай дзейнасцю, шмат гадоў вяла ў прамым эфіры віншавальную перадачу "Жадаем Вам" на радыё. Шмат друкавалася на старонках мясцовага друку, у часопісах "Крыніца жыцця" і "Акно", паэтычных зборніках "Святліца", "Гоман", "Вечнасць… А там? Што там?.. ", "Дыханием единым".. Аўтар кніг "Сцежка ў дзяцінства" (2003), "Рамонкавы ранак" (2013), "Звон верасовы" (2020), "Дабрыня" (2014).

Кіраўніком літаратурна-музычнай гасцёўні "Крыніца" яна з'яўляецца шмат гадоў. Гасцёўня "Крыніца" існуе пры тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябра Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў і публіцыстаў, сябра клуба "Купальскія зоры" пры цэнтральнай бібліятэцы імя Валянціна Таўлая.

У беларускай чытанцы для трэцяга класа (старонка 40) змешчаны яе верш:

*Крынічкаю лагоднай няхай цячэ гамонка,*
*Няхай шчыруе мова над любаю старонкай!*
*Няхай на роднай мове ўсе людзі размаўляюць:*
*РАДЗІМУ, МОВУ, МАЦІ*
*Ніяк не раздзяляюць.*

Друкуецца з 1972 года ў мясцовай і рэспубліканскай прэсе. Сааўтар шматлікіх альманахаў і калектыўных зборнікаў паэзіі і прозы. На сённяшні Раіса Міхайлаўна - аўтар пяці зборнікаў паэзіі і прозы, дзвюх дзіцячых кніжачак (для самых маленькіх), на яе словы напісана 12 песень.

У рамках літаратурна-музычнай гасцёўні "Крыніца" праводзіць сустрэчы з вучнямі школ, студэнтамі, працаўнікамі прадпрыемстваў горада Баранавічы і Баранавіцкага раёна, прысвечаныя гістарычнай памяці з мэтай папулярызацыі беларускай мовы.

Жадаю удзельнікам літаратурнага аб'яднання "Ліра" творчых поспехаў. З юбілеем !!!

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры.*

# Літаратурна-фальклорная гасцёўня "Добра працуеш - мір мацуеш"

Каму, як не нашым дзецям і ўнукам, наканавана зберагчы і захаваць багатую беларускую культуру для наступных пакаленняў?! Але так будзе пры адной умове: калі мы перададзім ім нашу спадчыну, выхаваем любоў і павагу да роднага краю, сваёй малой радзімы. Прыемна адзначыць, што праца гэта на Лідчыне вядзецца змалку, пачынаючы з дашкольных устаноў.

Адметна, што ў ДУА "Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці №1 г. Ліды", акрамя заняткаў адукацыйнай галіны "Развіццё маўлення і культура маўленчых зносін" вучэбнай праграмы дашкольнай адукацыі, арганізавана яшчэ і адукацыйная ініцыятыва "Цікава вучым родную мову". У рамках яе юныя лідзяне на пашыраным узроўні вывучаюць беларускую мову. Заняткі праходзяць у гульнявой форме два разы на тыдзень. Падчас іх выхаванцы старэйшых груп пазнаюць асаблівасці роднай мовы, спасцігаюць народныя традыцыі і фальклор. Свае веды дзецям перадае педагог Рома Францаўна Сцепаненка.

Адукацыйная ініцыятыва ў навучальнай установе працуе ўжо пяты год. Педагогі цэнтра развіцця дзіцяці выкарыстоўваюць розныя педагагічныя напрамкі: аўдыраванне, моўныя хвілінкі і хвілінкі адкрыццяў, суразмоўніцтва і разважанне на роднай мове, дзіцячую журналістыку - і нават ставяць лінгвістычныя эксперыменты. Выхавальнікамі дашкольнай адукацыі навучальнай установы назапашаны багаты вопыт работы ў гэтым кірунку. Ім педагогі ахвотна дзеляцца з калегамі з іншых гарадоў краіны падчас семінараў і фестываляў.

Акрамя таго, авалоданне беларускай мовай у дашкольным узросце з'яўляецца выдатнай падрыхтоўкай дзяцей да школы.

Штогод выхаванцы старэйшых груп ладзяць мерапрыемствы на роднай мове з удзелам выхавальнікаў дашкольнай адукацыі цэнтра развіцця дзіцяці, настаўнікаў СШ №1 горада Ліды, бацькоў. Сёлета для гасцей, у ліку якіх была запрошана і член Пастаяннай камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, намеснік па друкаваных СМІ дырэктара-галоўнага рэдактара ДУ "Рэдакцыя "ЛідаМедыяКампанія" Кацярына Серафіновіч, была падрыхтавана літаратурна-фальклорная гасцёўня пад сімвалічнай у Год міру і стварэння назвай "Добра працуеш - мір мацуеш".









Падчас мерапрыемства гучала сакавітая родная мова: прыказкі і прымаўкі пра працавітасць, вершы, загадкі, народныя гульні. Дарослыя разам з дзецьмі здзейснілі падарожжа ў мінулае, зазірнулі ў таямніцы нашых продкаў і адчулі гонар за наш працавіты, міралюбівы беларускі народ.

***Лілея Лапшына.***

*https://lidanews.by/news/molodezh/28877news.html*





# "Падарожжа па замкавай Беларусі"

20 красавіка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы ладзілася віртуальная экскурсія "Падарожжа па замкавай Беларусі", мэта якой - папулярызацыя помнікаў архітэктуры і гістарычных мясцін Беларусі.








Экскурсія пачалася з роднага горада, які сёлета адзначае сваё 700-годдзе, і галоўнай яго славутасці - Лідскага замка. Госці пабывалі ўнутры замка, пазнаёміліся з яго гісторыяй і прызначэннем на беларускай зямлі.



Наведалі Мірскі і Нясвіжскі замкі, палацы Пуслоўскіх, Сапегаў, Румянцавых і Паскевічаў. Навучэнцы змаглі пераканацца, што наша краіна мае найбагатую гісторыю, якая пакінула нам унікальную гістарычную і культурную спадчыну.

*ТК "Культура Лідчыны.*

# "Лідскі край: культура і гісторыя"










Цікава і пазнавальна прайшла этнаграфічная гадзіна "Лідскі край: культура і гісторыя" ў філіяле "Інтэграваная бібліятэка агр. Дворышча". Не выходзячы з бібліятэкі, усе прысутныя змаглі павандраваць па старонках гісторыі і культуры Лідскага краю, а таксама праверыць, наколькі добра яны ведаюць помнікі гісторыі і культуры, якія з'яўляюцца нашай спадчынай.

*ТК "Культура Лідчыны.*





# "ArtDANCE Fest 2023"

Інфармацыйны рэсурс "Культура і мастацтва" падзяліўся з культурнай грамадскасцю рэспублікі навіной аб тым, як у Палацы культуры прайшоў адкрыты харэаграфічны фестываль-конкурс "ArtDANCE Fest 2023".

Ініцыятарамі правядзення фестывалю з'яўляюцца кіраўнік студыі сучаснага танца "ArtDANCE STUDIO" - Кацярына Асядач-Брылеўская і дзяржаўная ўстанова "Палац культуры горада Ліды".






Папулярнасць, прэстыж і значнасць гэтага праекта пастаянна растуць. Важна, што "ArtDANCE Fest" - гэта праект, удзел у якім дае ўнікальную магчымасць выступіць на вялікай сцэне і заявіць пра сябе, не з'яўляючыся прафесіяналам, бо адна з галоўных мэт фестывалю - падтрымка і папулярызацыя харэаграфічнай аматарскай творчасці.

***ТК "Культура Лідчыны.***

# "Гэта Зямля - твая і мая"

21 красавіка філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 1" наведалі хлопчыкі і дзяўчынкі з ДУА "Яслі-дзіцячы сад № 7 г. Ліда", каб прыняць удзел у экалагічнай гульні-віктарыне "Гэта Зямля - твая і мая", прысвечанай Міжнароднаму Дню Зямлі. У пачатку мерапрыемства бібліятэкар паведала дзецям аб гісторыі свята, аб традыцыях Дня Зямлі, аб сімвалах свята. Затым дзеці падарожнічалі па станцыях "Лясная", "Грыбная", "Птушыныя сябры", "Браты нашы меншыя", "Экалагічная сітуацыя", дзе паказалі сябе сапраўднымі знатакамі прыроды.







У канцы мерапрыемства бібліятэкар напомніла дзецям аб тым, што берагчы нашу Зямлю неабходна ўсім разам і кожнаму паасобку.

***ТК "Культура Лідчыны.***

*Навіны Германіі*

# Нямецкія рамеснікі занепакоены: "Мы відавочна перажываем два крызісы"



Як паведамляе www.germania.one.de: *"Рамяство за плячамі не носяць"*. Так лічыць і новы прэзідэнт Рамеснай палаты Гановера Томас Геры. Тым не менш, як ён сцвярджае, галіна сутыкаецца з сур'ёзнымі праблемамі, якія таксама моцна адбіваюцца на спажыўцах.

- Мы відавочна перажываем два крызісы, - падкрэслівае Петар Карст, генеральны дырэктар Рамеснай палаты (19 000 кампаній, 100 000 супрацоўнікаў). Па яго словах, спачатку былі перабоі з пастаўкамі матэрыялаў з-за пандэміі каронавіруса, зараз з-за вайны ва Украіне.

- Адносіны з пастаўшчыкамі парушаны, - кажа ён. (Крыніца: bild.de.)

- Мы пакуль нават не можам прадбачыць наступствы, - кажа Томас Геры. - Кнігі замоў перапоўнены. Час чакання кліентаў адпаведна павялічываецца.

Цэны на матэрыялы таксама працягнуць расці. Гэтыя дадатковыя выдаткі будуць перакладзены на кліентаў.

- Майстар больш не зможа не ўлічваць іх, - тлумачыць Петар Карст. Яшчэ адной праблемай з'яўляецца недахоп кваліфікаваных кадраў.

Па словах Петара Карста, маладыя людзі аддаюць перавагу навучанню ва ўніверсітэтах, а не авалодванню рамяством. Ды і пошук пераемніка для ўласнай справы таксама з'яўляецца той яшчэ задачай. Прыкладна ў 30% усіх кампаній у раёне ўладальнікі старэй за 55 гадоў, большасць з іх павінны арганізаваць перадачу бізнэсу на працягу наступных пяці гадоў.

- Часы, калі сямейную справу пераймалі дзеці, даўно прайшлі, - канстатуе Томас Геры. Тым не менш, нягледзячы на цяжкасці, ён усё яшчэ захоўвае аптымізм, - Рамяство дагэтуль перажывала ўсе крызісы!

***Ганна Сарока.***

*Фота: Jens Scholz: bild.de.*

# Увесну 2024 года Германія плануе пабудаваць Балтыйскі ЗПГ-тэрмінал на базе магутнасцяў "Паўночнага струменя"



Нямецкія афіцыйныя асобы і ўплывовыя бізнэсмэны абмеркавалі гэты план у чацвер увечар падчас сустрэчы за зачыненымі дзвярамі з канцлерам Олафам Шольцам і міністрам эканомікі Робертам Хабекам, паведамляе Bloomberg са спасылкай на прадстаўнікоў чатырох арганізацый, якія прысутнічалі на сустрэчы.

- Трубаправод будзе падключаны да існай газавай інфраструктуры ў Любміне з вясны 2024 года, - сказаў на нарадзе Хабек, маючы на ўвазе пункт злучэння на мацерыку, дзе таксама заканчваюцца бяздзейсныя газаправоды "Паўночнага струменя".

Германія, найбуйнейшая эканоміка Еўропы, спрабуе палепшыць сваю энергетычную бяспеку, пакуль рэгіён аднаўляецца пасля гістарычнага крызісу паставак. ФРГ перастала атрымліваць газ з Расіі ў верасні 2022 года ў выніку прыпынку прапампоўкі блакітнага паліва па "Паўночным струмені" з-за накладак з турбінамі, а пасля нават магчымасць паставак была знішчана з-за выбухаў на падводным участку газаправодa. Зараз Берлін спадзяецца на звадкаваны прыродны газ (ЗПГ), адзначае выданне. Каб папоўніць дэфіцыт энергазабеспячэння, які ўзмацніўся з-за закрыцця ў красавіку 2023 года апошніх пазасталых атамных электрастанцый, Германія ўжо адкрыла тры плывучыя тэрміналы ЗПГ, і чакаецца, што іх стане больш. З-за экалагічных праблем гэтыя планы былі сустрэты пратэстамі, а таксама пагрозай рэальных судовых позваў з боку мясцовых груп у выпадку, калі Балтыйскі тэрмінал будзе рэалізаваны.

Міністэрства эканомікі ФРГ заявіла ў чацвер, што ўрад закупіў прастойваўшыя трубы, якія належалі газаправоду "Паўночны струмень-2", для будаўніцтва тэрмінала каля выспы Руген. У пятніцу прэс-сакратар міністэрства заявіла, што не можа пацвердзіць каментары Хабека пра тэрміны, але дадала:

- Па нашай інфармацыі, і канцлер, і міністр Хабек падкрэслілі неабходнасць дзейнічаць тэрмінова.

Газавая прамысловасць краіны таксама папярэдзіла жыхароў пра перабоі з пастаўкамі газу наступнай зімой.

***Максім Макарычаў.***

*Фота: Томас Ойгстар / РИА Новости.*





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *На марскіх і рачных берагах: Мяцеліца, Райс; незвычайныя ракурсы і некаторыя "вясёлыя" памылкі ў сувязі з "Сынам вады" (да 140-годдзя з дня нараджэння Янкі Маўра, ч. 5)*

*(Праця г, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-16 (53-68) за 2023 г.)*

Імя Маўра гучала ў перапісцы, што злучала нас з рознымі куткамі свету - са Слонімам, Масквой і Ленінградам, Лонданам, Украінай, Аўстраліяй, ЗША і Чылі.

У ліку ранніх такіх лістоў - тыя, якімі мы абмяняліся з харкаўскім літаратарам Юрыем Стаднічэнкам. Ён папулярызаваў, перакладаў Сат-Ока для ўсяго СССР, а таксама спрыяў наладжванню кантактаў паміж індзеяністамі. Як і Багдан Яхвак з Ужгарада, ён атрымаў ад нас "Сына вады" і з задавальненнем прачытаў. ("Палескіх рабінзонаў" з "ТВТ" мы перадалі актывістцы з Данецка, якая дапамагала нам у верасні 1997 г. у Гомелі наладзіць электронную пошту, прывёзшы асабіста мадэм (яна выглядала як жывое ўвасабленне "ваяўнічага тэхніка" з "ТВТ", адсюль такі выбар падарунка); куплены ў Ленінградзе дублетны экземпляр кубінскага выдання "Палескіх рабінзонаў" мы даслалі ў 1988 г. у падарунак СШ № 126 на вуліцы Янкі Маўра ў Менску - калі пералічыць ледзь не ўсе выпадкі падобнай практычнай папулярызацыі намі спадчыны Маўра.)

У першым лісце мы пісалі Стаднічэнку: *"Вельмі шкада, што наш пісьменнік Янка Маўр не жыве зараз. Гэта быў бы другі Сат-Ок, хоць і без індзейскіх продкаў. Водгукі аб яго кнігах, у т.л. і "Сыне вады", ёсць і ў архіве Маўра, і ў іншых месцах, але паўночна-амерыканскай тэматыкі ў Маўра няма, што зніжае значэнне яго творчасці ў выхаванні індзеяністаў. Калі б не 30-40-50-я гады, мы б чыталі пра апачаў не Мая, а Маўра (і не трывіяльнага літаратара, а сацыялістычнага рэаліста). Зрэшты, мы і так чытаем Маўра, яго аповесць аб вогнезямельцах ("Сын вады"), верагодна, першы індзеяніс цкі твор у савецкай літаратуры (хацелася б у гэтым пераканацца канчаткова). Вельмі шкада, што ніхто з беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і тыя, хто прытрымліваецца "маўраўскай традыцыі", не прадоўжыў распрацоўку гэтай тэмы. Гэта зрабілі самі па сабе ці ў сувязі з польскай традыцыяй некаторыя ўраджэнцы Беларусі, якія пісалі на польскай мове. Напрыклад, Нора Шчапанская…".*

27.11.1987 г. Стаднічэнка адказаў, паведаміўшы, што калісьці чытаў раман "Амок". 10.01.1988 г., у другім лісце, з трох атрыманых, ён ужо перадаў свае ўражанні і ад "Сына вады".

Пішучы *"ніхто"* ці *"што толькі ў Польшчы"* - мы яшчэ не ведалі пра Аляксея Якімовіча, хаця гэты сланімчанін хутчэй Джаан Роўлінг або Джэймс Бары, чым Янка Маўр, - больш "фэнтэзі", чым у Маўра, у апісанні неeўрапейскіх краін (гл. сканы аднаго з лістоў ад Аляксея, у якім надзвычай выразна паказанае значэнне Маўра з яго пункту гледжання).



24.XI.1987

Здравствуйте, Алесь!

Извините за задержку с ответом: командировки, литературно-общественные мероприятия, собственные творческие заботы.

К сожалению, я не располагаю адресами интересующихся индейской тематикой в Белоруссии. Одно время писала мне Н. Авсеевич из Витебска, но уже давно молчит. Да и за 60 ей…

Думаю, Вам следовало бы выступить с соответствующей статьей в белорусской комсомольской прессе

Меня заинтересовало Ваше сообщение, точнее - размышления о творчестве Янки Мавра. В свое время я читал в украинском переводе его роман „Амок" - очень понравился, помню.

О повести Я. Мавра „Сын воды", увы, до сих пор даже не слыхал. Нельзя ли её достать, желательно на белорусском языке?

Адрес Норы Щепаньской постараюсь узнать, если она, конечно, жива-здорова. Напишу другу, который живет в Варшаве, или прямо

***Юрый Стаднічэнка ў Гомель 1987-11-24 с. 1 з 2-х***

Найбольш цікавае для нас, бадай, жыццё выданняў "Сына вады", перспектывы аповесці ў выхаванні беларускіх дзяцей, а таксама незвычайныя, неадэкватныя ацэнкі, найперш Манга - вольналюбівага, цікаўнага, але без "класавай пазіцыі" "дзікуна". Сінопсіс з рознай ступенню дэталізацыі, крытыка, уключаючы вызначэнне жанру, палітычныя высновы з нашага і іншых пунктаў гледжання - для вялікіх асобных размоў.

З выказванняў пра "Сына вады" хіба сапраўды вартыя найбольшай увагі тыя, што ўтрымліваюць "палітычныя" высновы - у першыя гады кніжнага жыцця аповесці крытыкі не адчувалі страху за любое лішняе неўдалае слова, нават сказанае ў "правільным" кірунку, і







24.XI.1987

в так называемое Авторское агентство при польском ВААПе. Там меня знают и ответят.

Я, если не ошибаюсь, читал произведения Шпаньской на польском языке. Кажется, повесть „Dziki Anda" или что-то другое.

Высылаю Вам два номера журнала „Україна" с очерком о Сат-Оке. Возможно, пригодится.

С уважением

Ю. Стадниченко

***Writer Yuri Stadnichenko, Kharkov 1987-11-24 p. 2 of 2***



Здравствуйте, Алесь!

Прежде всего благодарю за „Сына воды", получил и с удовольствием прочитал. Огнеземельская повесть Янки Мавра, по-моему, не потеряла своего значения и теперь. Разве что фуиджи, как и óна, истреблены белыми колонизаторами.

В свою очередь, я выслал Вам несколько экземпляров украинских иллюстрированных журналов — просто так, для информации. Думаю, чтение на украинском языке для Вас не составляет трудности.

На всякий случай:

| укр | бел. | русск |
|---|---|---|
| и | ы | ы |
| і | і | и |
| ї | йі | йи (слитно) |
| є | е | е |
| е | э | э |

Ваше начинание — создание общества, объединяющего белорусских индеанистов-любителей /и, может, профессионалов — одно другому

***Ад Ю. Стадніцэнкі 1988-01-10 с. 1 з 2-х. Прачытаў "Сына вады"***

некаторыя не на жарт накідваліся на твор. Рэвалюцыя многае змяніла ў поглядах на прыгнечаныя "каляровыя" народы, але засталіся перажыткі старых уяўленняў, у выніку чаго атрымалася дзіўнаватая сумесь, гібрыд - пры якім многіх не задавальняла класавая "прытупленасць" дзікуна і г.д. Праз некаторы час крытыка Маўра супакоілася - зрэшты, было ўжо і не да гэтага; і толькі пасля перабудовы мы заўважылі асобныя галасы, якія ставяць пад сумненне вартасць, гуманізм Маўра ў яго паказе "дзікуноў". Голас А. Скурко сапраўды гучыць крыху дысанансна, у параўнанні з вядомымі, але такі "шчупак", відаць, не пашкодзіць: пытанні жорсткасці як каланізатараў, так і іх ахвяр, уключаючы этычныя межы чорнага гумару, варта абмяркоўваць.

Як вядома, Маўр любіў гумар, у тым ліку і чорны, - нездарма ён перакладаў Марка Твэна.

Маўр "не пераадолеў" - і ці мог пераадолець? - стэрэатыпы "дзікуна", туземца, тубыльца, але, па ўсім бачна, імкнуўся зрабіць вобраз больш прывабным і гуманным - "рамантызаваў"… каб заслужыць крытыку ўжо ў наш час, які, па логіцы прагрэсу, павінен вымагаць сапраўды развітых збалансаваных падыходаў. На практыцы: настаўнікі цяпер не вельмі ўпэўненыя ў тым, што можна казаць пра каланіялізм. Тым не менш, беларускія крытыкі могуць і далей лічыць Манга вобразам, які назаўсёды ўвайшоў у гісторыю не толькі беларускай, але і савецкай дзіцячай літаратуры. Для больш эфектыўнага далейшага працэсу - уваходзіць у гісторыю *"сусветнай дзіцячай літаратуры"* - патрабуецца і больш актыўнасці па параўнанні вобразаў, створаных для стэрэатыпізацыі Патагоніі і Вогненнай Зямлі - гэтых надзвычай рамантычных, але і трагічных мясцін у краінах Крайняга Поўдня, якія зазналі сапраўдны тэрор і генацыд - сістэматычнае знішчэнне і прыніжэнне людзей як у 19, так і ў 20 стагоддзі.

Трохі *"стылёвага"*, часам смешнага, памылак і апломбу, характэрнага свайму часу, - не зусім *"адэкватнага"* з пункту гледжання цяперашняга чытача - можна знайсці ў цытатах ніжэй (выпісаныя, а потым набраныя на камп'ютары, яны не правяраліся намі - могуць быць *"збоі"*).

М. Яфімаву, якая амаль без змен падае сваё бачанне праз 20 гадоў пасля яе першай кнігі, і Э. Гурэвіч, якая змяніла трактоўку антырэлігійнай жорсткасці і іншага падобнага ў Маўра ў адпаведнасці з *"новым часам"*, вядома, можна адрозніць ад В. Селіванавай і Я. Дорага, якія пісалі значна раней. Адрозніце таксама думкі названых аўтараў ад выказаных рэцэнзентам *"Настаўнікам"*, Я. Зомерфельдам, І. Чыгрынам, Э. Ялугіным. Акцэнты ў ацэнках вар'іруюць, хаця некалькі асноўных матываў гучаць пастаянна. Адзначаецца тое, як Маўр паказаў жыццё фуіджынцаў, характарызуецца галоўныя герой і





не мешает), конечно же, считаю правильным. Начинать надо с разработки устава и сплочении инициативной группы. Можно под эгидой „Крыніцы" или другого комсомольского органа или организации. Трудностей будет premного. На штатные должности особенно не рассчитывайте. Не знаю, какой комсомол в Белоруссии, а на Украине, в частности в Харькове, это организация, где инициатива, перестройка, обновление – пока что бумажные лозунги. Да и древний принцип „как бы чего не вышло" еще срабатывает.

Желаю успехов в Новом году, в том числе на поприще индеанистики!

Ю. Стадниченко

10.1.1988
Харьков

*Letter from Y. Stadnychenko, Kharkiv 1988-01-10 p. 2 of 2*

Mick Gidley
School of English
University of Leeds
Leeds LS2 9JT
England, United Kingdom

March 6, 1996

Dear Dr. Gidley:

We have learned about this year's workshop and the conference to be held in Warsaw. It is difficult for us to come even to Poland; not to say about the belated invitation. If I had known earlier, I would not have read a paper on "Non-Jewish Participation in Belarusian Jewish - American Indian Dialog (Belarusians Against Indian Anti-Semitism" all the same.

Could we ask you to send us a list of presentations or a short program of the workshop and a summary of the conference?

We wish you successful work.

By the way, who are the current leaders of the European Association for American Studies and where is its office?

We would also like to know if you have ever heard the name of Yanka Maur and his "English-Fuegian" story "The Son of Water" (first publication: Minsk, 1928).

I am enclosing a letter and a copy of our appeal on the Vygodskys; please pass on them to Dr. Davies.

Thank you.

Sincerely,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

*Letter to Prof. Mick Gidley 1996-03-06 "Son of Water"*

UNIVERSITY OF LEEDS

From the School of English

University of Leeds
Leeds LS2 9JT
Telex 556473 UNILDS G
Fax 0113 233 4774
Telephone 0113 243 1751
Direct line 0113 2
General Office 0113 233 4739

23 April 1996

Mr Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
P O Box 114
Comel 246049
Belarus

Dear Mr Simakou

Thank you for your letter of 6 March, which has only just arrived. I have sent on your appeal on they Vygodskys to Dr Davies of the Psychology Department here.

Obviously, the Indian workshop has already taken place. I enclose here information about it.

Best wishes

Yours sincerely

Mick Gidley

Professor Mick Gidley

*Letter from M. Gidley of Leeds 1996-04-23 No "Son of Water"*

гераіня, іх адносіны, даецца маральная ацэнка. Нам найбольш падабаецца ацэнка "Сына вады" І. Чыгрынам, які даследаваў прозу "Маладняка", у т.л. яе прыгодніцкае "рэчышча", і з вышыні 80-х гадоў ахарактарызаваў палітычнае значэнне "Сына вады" і іншых твораў Маўра. Таксама ў будучым нам хацелася б як найпаўней прадставіць бачанне *"экзатычнага цыклу"* Маўра Б. Зубкоўскім - сапраўдны прыемна сустрэць свежы позірк, які абапіраецца на параўнанне герояў Маўра і герояў іншых, больш вядомых у свеце класікаў прыгодніцкага жанру.

*"... Маўр з уласцівай яму эрудыцыяй знаёміць чытача з жыццём, побытам паўночна* [так!]*-амерыканскага племені фуіджынцаў. На фоне прыгод сваіх дзікунскіх герояў аўтар паказвае жорсткую барацьбу чалавека з прыродаю..."*

*"Даная кніжачка для дзяцей* [...] *малюе мізэрнае жыццё жыхароў Вогненнай Зямлі (паўднёвага краю паўднёвай Амерыкі, ля Магеланавай пратокі) іх побыт, простыя дзікунскія звычаі..."*

*"Аўтар даў надзвычайна прыгожыя малюнкі дзікай, але велічнай у свае суровасці, прыроды Вогненнай Зямлі, а самае галоўнае - досыць поўна паказаў нялюдскае, цяжкае жыццё тубыльцаў, іх звычаі, побыт, гаспадарку, працу і г.д. Усё гэта Маўр здолеў зрабіць без жаданых ухілаў у бок тандэтнай экзотыкі, якая звычайна пануе ў гэтым літаратурным жанры"*. Кніга *"дапаможа чытачу ўявіць сабе ступень залежнасці агульна-культурнага ўзроўню грамадства ад характару працэсаў вытворчасці, зразумець, адкуль і як*





*Манга, паставіўшы яго ва ўзаемаадносіны з жанчынай з буржуазнага грамадства, магчыма, і добрай, якая не жадае зла свайму выратавальніку, нават, як быццам, прымае ўдзел у яго лесе, але ўсё ж у сілу свайго выхавання і становішча глядзіць на яго як на рэч".*

Манг у Лондане - гэтым фактычным цэнтры свету і тады, і цяпер, - вялікая ўдача Маўра. Можна да бясконцасці ўяўляць і нават дапісваць, што магло быць далей з Мангам, ці працягваліся яго адносіны з Белай Птушкай-Грэт, ці не стаў ён, скажам, дзеячам рабочага руху Вялікабрытаніі. Не ўсе зразумелі геніяльнасць незавершанасці апошняй часткі прыгод Манга - паводле гэтага пункту гледжання, варта было паказаць больш *"пакорлівасці лёсу"* або, наадварот, прабуджэння да барацьбы, а таксама, магчыма, імкнення Манга стварыць сямейны агмень - або вярнуцца на Вогненную Зямлю з пэўнай асэнсаванай праграмай.

*"Неяк зусім штучна прышыты да аповесці апошні раздзел "Праз чатыры гады". Зусім не паказана, як дзікун Манг зрабіўся лёкаем у Лонданскім рэстаране. Тым часам ясна, што перажыванні зусім першабытнага дзікуна, які раптам трапіў у адзін з большых сусветных індустрыяльных цэнтраў, становяць самі па сабе тэму для вялікае аповесці".*

Уражваюць *"невялікія абразкі з паднявольнага жыцця гэтых самых афіцыянтаў, магутнасць, нечалавечнасць англійскіх і, зразумела, усіх капіталістаў, для якіх у гэтым рэстаране" - "здаецца, увесь свет сабраўся, каб ім служыць".*

*"Прасочваючы далейшы лёс Манга, які апынуўся ў Англіі, Я. Маўр паказвае, як цяжка сумленнаму чалавеку знайсці месца ў краіне бізнесу. Спрытны і мужны ва ўмовах суровай прыроды, Манг аказаўся бездапаможным і слабым у капіталістычным горадзе".*

*"Ад канцоўкі аповесці павявае пасіўнасць: неяк не стасуецца да характару вольналюбівага, смелага Манга пакорлівасць лёсу".*

*"Палітычныя высновы" заключаюцца перш за ўсё ў тым, што "апавяданне ў сваёй аснове прасякнута своеасаблівай "апалітычнасцю", сацыяльнай прытупленасцю. Тут багата прыроднага, геаграфічнага каларыту і гэтак мала жывых арганізавальных ідэй. Логіка падзей аповесці прымушае аўтара паставіць сацыяльную праблему. У творы яна мастацкі канкрэтызуецца праз малюнкі прыгнёту, эксплуатацыі чорнага* [так: не "чырвонага", не чырванаскурага, не цемнаскурага, а "абагулена" і спрошчана - чорнага, далей да гэтага слова дадаецца і слова "раб"] *Манга белымі "цывілізатарамі" буржуа англічанамі. Але гэты прыгнечаны Манг не ўзнімаецца ў Маўра да сацыяльнага пратэсту, нават не абураецца гэтай эксплуатацыяй чалавека чалавекам. У барацьбе з прыродай ён дужы, смелы, поўны моцнай волі, у стасунках жа грамадскіх - пакрыўджаны, бязвольны, чорны раб, які здольны толькі марыць пра свабоду, прычым, свабоду свайго мінулага, якая дасягаецца шляхам дзікунскай першабытнай барацьбы чалавека са зверам, чалавека з непадатліваю прыродаю".*

Зусім слушны пасаж: *"І хто ведае, да якіх вышынь культуры дайшоў бы дзікун Манг, калі б для яго былі створаны чалавечыя ўмовы жыцця і працы".*

На заканчэнне гэтай часткі серыі матэрыялаў да 40-годдзя Я. Маўра - пра назву "фуіджынцы". Як бачым, яна часам скажаецца, у выніку чаго назіраем і значнае "перамяшчэнне" вогнезямельцаў - некалькіх народаў, якія практычна зніклі, - у больш шчаслівую для лёсу абарыгенаў Акіянію. Даўно заўважана, што Маўр не паспрыяў таму, каб яго герояў выразна ўспрымалі індзейцамі: яго "фуіджынцы" - гэта Fuegians, праз англійскую або эсперанта ад тапоніма Tierra del Fuego. што няцяжка зблытаць з Фіджы, фіджыйцамі.

Ці варта высвятляць, хто першы ўвёў "ідэю", што "Сын вады" апавядае пра "юнага фіджыйца" - руская Вікіпедыя або рытуальная служба Менска? Гэтае спалучэнне мы знайшлі: 31.05.2020 г. - на сайце ritual.by (матэрыял "Могила Янки Мавра на Восточном кладбище в Минске"), а 13.04.2022 г. - і ў Вікіпедыі, дзе яно застаецца і цяпер.

*"Сюжэтная лінія галоўнага героя, юнага фіджыйца Манга, у ёй пабудаваная на распаўсюджанай у прыгодніцкай літаратуры схеме: выратаванне белага чалавека ад дзікіх тубыльцаў"*, - напісана ў Вікіпедыі. І сапраўды, у тыпалагічных, жанравых адносінах "Сын вады" можа быць вызначаны не толькі абагулена як *"прыгодніцкая аповесць"*, але і больш вузка - *"каланіяльная літаратура"*, *"рабінзанада"*, *"кніга пра караблекрушэнне"* і, што гучыць блізка да вызначэння ў Вікіпедыі, - "кэптывіты" (captivity, твор пра жыццё ў плямёнах белых, захопленых у палон або тых, хто трапіў туды нейкім іншым шляхам, але не па сваёй волі).

**Літ.:**

*5623 Скурко А. Чырвоны казуркаед: па старонках часопіса "Вожык" // Arche (Скарына). 2000. № 6/11. С. 66-69.*

*12046 Выготский Л. С., Лурия А. Р. Этюды по истории поведения: Обезьяна. Примитив. Ребенок. М., 1993.*

*8987 Выготский Л. С. Педагогическая психология: краткий курс. М., 1926.*

*2437 Выготский Л. С. Развитие высших психических функций: из неопубликованных трудов. М., 1960.*

*2434 Выготский Л. С. История развития высших психических функций // Выготский Л. С. Собр. соч.: В 6-ти т. Т. 3: Проблемы развития психики / под ред. А. Матюшкина. М., 1983. С. 5-328.*

*2616 Выдра Р. "Загадки" первобытного мышления и их разгадка // Под знаменем марксизма. 1925. № 7. С. 152-163.*

*2216 Яхвак Б. Індзейцы? Гэта цікава! // Беларусь. 1988. № 2. С. 33. (Першая, магчыма, індзеянісцкая*

*аб'ява ў друку Беларусі. Яе даў ужгарадскі індзеяніст, бібліяфіл.)*

**МЯЦЕЛІЦА Алег** - з Бялыніцкага раёна, педагог-географ па набытай прафесіі, які пэўны час спрабаваў трымаць аграсядзібу з некаторымі індзейскімі элементамі ў ёй.

Гэта пра яго: *"Гэтыя цікавыя людзі сціпла жывуць побач з намі, а мы часам і не здагадваемся пра іх яркі і незвычайны ўнутраны свет"*; *"Беларускія індзейцы ездзяць па ўсім свеце і сустракаюцца не толькі з такімі ж, як яны, але і з сапраўднымі індзейцамі"*, але патрабуецца дэталізацыя.

Увайшоў у суполку беларускіх індзеяністаў дзякуючы свайму сябру Сяргею Шапрану. У Расію на паўваў упершыню паехаў у 1993 г. і на працягу двух дваццацігоддзяў "ездзіў кожны год, амаль без перапынку", г.зн. мусіў бачыць там і тых з гасцей, хто меў індзейскую кроў. І вось цяпер, праз 30 гадоў, ён успамінае, як было з яго індзейскім лёсам і сустрэчамі з братамі.

На просьбу пацвердзіць факт прамых зносін з індзейцамі Алег адказаў:

*"Аднойчы ў Мінску мы рабілі такі своеасаблівы індзейскі фэст, і прыязджаў з Амерыкі індзеец наваха.*




***Miatselitsa (Windstorm), or Miatla (Broom), a "Belarusian Indian" from the Two Oaks Reservation. Photo from S. Iagorachkin (Yegorochkin)***

*Акрамя таго, што ён быў, як бы гэта сказаць, прапагандыст індзейскай культуры, ён яшчэ выдатна граў на флейце ў сваім ярка выражаным этнічным стылі. Увогуле людзі, каторыя прыязджалі, яны вядомыя ў сябе на радзіме. Не шараговыя, напрыклад, заўзятары мясцовага бара. Гэтыя індзейцы - публічныя людзі, якія займаюцца такой своеасаблівай культурнай асветай,*



***Belarus. Індзеяністы. Лясная "фракцыя"***



***Крайнія злева і справа - пайшлі ў індзеяністыку яўна з-за сваёй знешнасці***



***Пашыраны склад. Фота ад С. Ягорачкіна***





*могуць правесці цырымонію ці абрад, прачытаць традыцыйныя малітвы, распавесці пра нейкія тонкасці ці сакрэты, ведаюць легенды, песні, звычаі, самі маюць высокі статус у індзейскай супольнасці".*

Наколькі мы маглі прасачыць за выказваннямі Алега ў публічных крыніцах, ён згадваў і сенатара-метыса (шаен-партугалец) Бэна Найтхорса Кэмпбала, які пазіцыяніруе сябе ўсё ж індзейцам і пэўны час, што могуць пацвердзіць і публікацыі ў беларускім друку на мяжы стагоддзяў, выказваў зацікаўленасць Беларуссю. Сенатару ад Каларада рабіліся прапановы наведаць Беларусь, але сустрэча яго, як і з афіцыйнымі асобамі, з Алегам і іншымі індзеяністамі пакуль не адбылася з-за, дыпламатычна кажучы, поўнага графіка. Тым не менш, зыходзячы з тэорыі, што ўсе людзі роўныя, бар'еры паміж рознымі іх катэгорыямі не заўсёды абавязковыя. Кэмпбал меў справу з беларусамі, у т.л. у Вашынгтоне, - нас гэта цікавіць як шаенска-беларускі кантакт.

**Літ.:**

*3082 Для вас танцуют индеанисты // Вечерний Минск (2-ой вып). 1996. 14 окт.*

*2491 Шапран С. Командировка на Пау-Вау // Знамя юности. 1993. 9 авг.*

*2741 Шапран С. Белые люди с индейской душой / фото автора и из архива Железного Глаза [О. Жилинского] // Аргументы и факты в Беларуси. 1994. № 24. С. 8В.*

*3253 Шапран С. Под гитару и песни, и люди на время становятся равными // Знамя юности. 1995. 20 июня.*

*3457 Шапран С. Наши индейцы / фото // Уши. Пилот в мире звука. 1997. Янв. № 1. С. 29. 3-я стр. обл.*

*7552 Шапран С. Punk's Not Dead: их никто не любит, но они бессмертны // Имя. 1997. 23 мая.*

*3267 Шапран С. Индейская пляска солнца под Минском // Имя. 1997. 30 мая.*

*4622 Шапран С. Индейцы ввели сухой закон: какой из аксессуаров "бледнолицых" надели "краснокожие" по случаю яркого солнца? // Имя. 1997. 18 июля.*

**РАЙС Вольга** (3) - 8.02.2005 г. бахаістка-беларуска паведаміла (тэма электроннага ліста: "List of materials I will send out Feb. 8, 2005."), што адпраўляе пасылку: *"Я дасылаю скрыню з кнігамі і матэрыяламі 8 лютага 2005 г. Гэта зойме каля 3 месяцаў. Я паклала спіс матэрыялаў у скрынку. Спадзяюся, усе яны дойдуць і прынясуць задавальненне* [they all get there and are enjoyed]. […]. *Міру* [або "З мірам": Peace], *Вольга Райс"*. Пра тое, што скрынка для нас сабраная, Вольга паведамляла яшчэ раней, 8.11.2004 г.

Мы атрымалі яе 21.03.2005 г. (г.зн. у два разы хутчэй, чым прагназавала Вольга; тады не было магчымасці зафіксаваць атрыманае на фота, таму цяпер не можам даць дэталі пра аднесеную да брашур адзінку "Indian country" і кнігу ў мяккай вокладцы "Калі паміраюць легенды" з-за іх фізічнай адсутнасці "на сваім месцы"; частка кніг з нашага цэнтральнага сховішча размешчана ў калег у розных гарадах і вёсках; генеральны каталог Бібліятэкі БІТ мае шмат запісаў, зробленых толькі пункцірна, - колькасць кніг занадта вялікая, каб увесці неабходныя для 100-працэнтнай ідэнтыфікацыі элементы літаральна для ўсіх з іх). У квадратных дужках наша дэталізацыя па кнігах, атрыманых ад Вольгі Райс.



***Photo by / from Olga Ruys, a Belarusian in Washington State: "Theo Ruys dancing with Suquamish-Chief Sealth's Days"***



***From Theo and Olga Ruys: "A Native American Family. Theo, Melanie, Bill (Clallam Indian), Champ, Audry. Neah Bay May 19, 1985"***

*"Books and Videos for The Belarusian [-] American Indian Society*

*All Books and Videos are Used and free of Import Duties*

*5 Videos*

*1. Sacred Ground [;]*

*2. Cheyenne [;]*








*The Ruys family's ties with "A Native American Family" (Polaroid)*




*Ken Thomasma. Naya Nuki. 1994 (cover)*




*Аўтограф Кена Томасма на яго кнізе "Ная Нукі". Autograph of Ken Thomasma. Naya Nuki (1994)*

*3. Apache - 2 videos in one case [;]*

*4. The Native Americans [;]*

*5. Iroquois*

*Brochures*

*1. The Red Man in America [Babcock C., Misiaczek L. (1970)]*

*2. Indian Country [?]*

*3. When Clay Sings [Baylor B. (Bahti T., Illustrator) (1972)]*

*4. American Indian Beadwork [Hunt W. B., Burshears J. F. ("Buck") (1973, 3rd printing)]*

*5. Southwestern Indian Ceremonials [Bahti T. (1990, 7th printing)]*

*6. North American Indians [Gorsline M. and D. (1977)]*

*7. Nesting Out for*







Theo & Olga Ruys
9214 N.E. Ruys Lane
Bainbridge Island
WA 98110 USA

Naya Nuki
Shoshoni Girl Who Ran

Kenneth
Thomasma

Eunice
Hundley
Illustrator

BAKER BOOK HOUSE
Grand Rapids, Michigan 49516

Grandview Publishing Company
Box 2863, Jackson, WY 83001

***Штэмпель Райсаў на кнізе K. Thomasma "Naya Nuki" 1994 (тытульны аркуш)***

*Stars-Poems [Niatum D. (дату-еццa па ўводзінах аўтара "Moon of Ripe Berries, 2002"; над звесткамі "About the Author" рукой Ніятума напі-саныя лічба 63 у надрукаваным радку "No. of an edition of 150." і ўдакладненне аўтара выявы на вокладцы "Cover art by Freda Quennerille"… і аўтограф "для Вольгі", вядома]*

*8. I Can Read About Indians [Warren E., ill. by V. McWilliams (1975)]*

*Books*

*1. Naya Nuki [Thomasma K. (1994, 5th printing) SUBTITLE: Shoshoni Girl Who Ran; з аўтографам аўтара]*

*2. Southwestern Indians [Sides D. S. (б.г., выданне з ISBN 486-20139-2, для якога isbns.net дае 1962 г., але якое "first published in 1961", як нескрочанае ў параўнанні з выд. 1936 г.) Decorative Art of the Southwestern Indians]*

*3. The Ceren Site [Sheets P. D. (1992) SUBTITLE: An Ancient Village Buried by Volcanic Ash in Central America]*

*4. Diversity In America [Parillo V. N. (1996)]*

*5. American Indian Literature [ed. by A. R. Velie (1979)]*

*6. Chief Red Fox Is Dead [Rawls J. J.(2000)]*

*7. Bruchko [Olson B. (1997, 27th printing]*

*8. Indians of the Northwest Coast [Drucker P. (1963)]*

*9. When The Legends Die [Borland H. (year - ?); раман 1963 г., па ім фільм 1972 г., які быў і ў савецкім пракаце]*

*10. Reservation Blues [Alexie S. (1996)]*

*11. Daniel Boone: Wilderness Scout [White S. E. (у кнізе ўказаны толькі год copyright - 1922, па Amazon падобная вокладка - у выд. 1962 г.]*

*12. Our Native American Heritage [(Reader's Digest) (1996)]*

*13. American Indians [The World of the American Indians (National Geographic Society) (1979, 2nd printing)]*

*14. Discovered Lands Invented Pasts [1992 SUBTITLE: Transforming Visions of the American West]*

*15. Kahtahah [Paul F. L. (1996)]*

*16. As Long As Grass Shall Grow… [Trafzer C. E. (2000) As Long As the Grass Shall Grow And Rivers Flow: A History Of Native Americans]*

*17. Incas [McIntyre L. (1975) The Incredible Incas and Their Timeless Land]".*

Мы не знайшлі ў гэтым спісе выдатную, класічную кнігу *Oliver La Farge. A Pictorial History of the American Indians. N. Y.: Crown Publishers, Inc. (3rd printing, May 1957)*, якая таксама была ў скрыні.

Хацелася б, каб жыццё гэтых кніг у Беларусі было доўгім і шчаслівым, каб яна радавалі вока і сэрца многіх.

**Літ.:**

*2579 Знакомство с верой бахаи (б.м, б.г., б.паг.). 28 с. (Па ЭК НББ - Мн., "1993?".)*

*4770 Ла Фарг О. Смеющийся Мальчик / пер. М. Казаченко; рис. Н. Козлова // Всемирная литература. 1999. № 10. С. 24-50; № 11. С. 16-93.*

*5322 Зарубежные фильмы ("Когда умирают легенды") // На экранах Беларусі. 1975. № 5. (Сканы з калісьці масавага, а цяпер недаступнага нават у абласных цэнтрах выдання мы змаглі рабіць дзякуючы захаванасці падшывак з 1960-х гг. у сем'ях у Лепельскім раёне (в. Валова Гара) і Гомелі (Фёдар і Ніна Снітко, бацькі А. Снітко на "Сельмашы").*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou,***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian) connections.*





# Маладая Беларусь

Штотыднёвік "Наша Ніва" з'яўляецца выразнікам нацыянальных беларускіх памкненняў і запытаў. Выданне друкуецца на беларускай мове кірыліцай і лацінскай. Каб зразумець чым з'яўляецца гэтае выданне і ўвесь беларускі нацыянальны рух, трэба паглядзець у гісторыю.

Палітычныя буры, якія трэслі наш край у 1848, 1863 гг. будзілі ад сну і пхалі да чыннага палітычнага жыцця асобаў ці цэлыя шырокія палітычныя групы. Тады на тле ідэалогіі служэння нацыянальным патрэбам, адбывалася збліжэнне шляхты і сялянскай хаты, шляхта надзела сялянскія "світкі" і пачала пісаць паспалітай вясковай мовай, складаць на ёй песні і думкі пра нядолю сваіх малодшых братоў.

Аднак народ толькі назіраў, маўчаў і думаў, а, можа, спаў.

Пасля кароткага выбуху інтэлектуальнага запалу і барацьбы, у грамадстве запанавала рэакцыя. Мары і надзеі хутка згаслі, вочы ўбачылі непераўпрыгожаную рэальнасць і месца рамантызму заняла рэальная палітыка, а месца ідэалогіі *"для народа і за народ"* - эканамічная барацьба двара з парабкам. Аднак створаная тагачаснымі дэмакратамі народная літаратура засталася і пачала вандраваць паміж засценкам і вёскай.

У 1880-х гг. сыны палітычных дзеячаў 1863 г. у пошуках ведаў і хлеба аказаліся на ўніверсітэцкіх лавах у Маскве і Пецярбургу, дзе разам з навукай прагна паглыналі дактрыну і тэорыю тагачасных рускіх дэмакратаў. Там паўсталі студэнцкія гурткі самаадукацыі, пачалося вывучэнне народнай літаратуры, выданне арыгінальнай і перакладной з рускай мовы, папулярнай дэмакратычнай літаратуры. Апавяданне Гаршчына "Сыгнал, альбо расказ аб тым, як дабро перамагло зло ў чалавека" было выдадзена маскоўскімі студэнтамі і разышлося па сялянскіх беларускіх хатах. Аднак, народ і тады абыякава прыняў гэты дар інтэлігенцыі, назіраў і пераважна маўчаў.

Трэба была вялікае ўзварушэнне ўсяго грамадскага арганізма, шырокага дэмакратычнага руху і эканамічнага вызвалення, каб гэты ад веку скалечаны, цёмны і нявольны беларускі селянін, адчуў сябе чалавекам - грамадзянінам краю. Відочна, першае жаданне такога абуджанага чалавека было матэрыяльным. Перад усім, ён марыў пра эканамічны падмурак - зямлю, як варштат працы. Аднак гэтым абуджаным марам не хапала ўсведамлення неабходнасці агульначалавечых, грамадзянскіх правоў, што спарадзіла да гэтага часу дрымотныя патрабаванні культурнага характару. Беларускі народ пачаў казаць. Апатычны, на палову летаргічны стан, пачаў станавіцца жывым і чынным арганізмам.

Пра сваю нядолю і бяду, пра свае мары пра лепшую будучыню, якая невыразна яшчэ бачна ў імгле цяжкай рэчаіснасці, беларускі народ можа і жадае казаць толькі на сваёй мове. З нецярпеннем і ахвотай хіліцца ён да гэтай адзінай крыніцы, адкуль распаўсюджваецца голас яго бацькаўскай мовы. Адсюль ён даведваецца, што яго песні, звычаі, строі, паданні, не хамскія і вартыя пагарды, як яму казалі раней, але яны, як і ў іншых народаў, маюць правa на існаванне і развіццё, з'яўляюцца багаццем 8-мі мільённага народа, які адвеку жыве ў сваім краі, багаццем якое з часоў сівога мінулага ёсць культурным здабыткам які не можна занядбаць ці змарнаваць, але належыць старанна песціць і развіваць.

Да гэтага часу да беларусаў і за беларусаў выказваліся іншыя, а ад сёння, да сябе і пра сябе пачынае казаць сам беларускі народ.

Шмат хто з тых, хто стаіць па-за беларускім рухам, будзе казаць, што газета "Наша Ніва" і народныя выдавецтвы ёсць забаўкай групкі інтэлігентаў, якія ўдаюць сябе за беларусаў. Але гэтаму станоўча пярэчаць наступныя лічбы.

У прошлым 1910 годзе газета змясціла 666 арыгінальных карэспандэнцый з 320 мясцовасцей. Аўтарамі былі пераважна сяляне, рамеснікі, паўінтэленцыя мястэчак, народныя настаўнікі, арганісты. Па губерням, карэспандэнты падзяляюцца наступным чынам: Менская губерня - 208, Гарадзенская - 114, Магілёўская - 65, Віцебская - 27, Ковенская - 15, Смаленская - 8, Віленская - 229.

У гэтым жа 1910 г. газета надрукавала 69 твораў белетрыстыкі розных аўтараў і 112 паэтычных твораў 24-х аўтараў. Публіцыстыку пісалі 32 аўтара, не лічачы рэдакцыі.

Пра рост колькасці народных чытачоў пераканаўча сведчыць развіццё выдання кніг. Календары, брашуры і кніжкі на беларускай мове выдаюцца наступнымі арганізацыямі: "Наша Ніва" і "Наша Хата" - у Вільні, "Загляне сонца і ў наша ваконца" - у Пецярбургу, "Палачанін" - у Полацку, "Мінчук" - у Менску. Разам, на працягу апошніх 4 гадоў выдадзена каля 200 000 асобнікаў, з якіх палова выкуплена, г. з. да 25 000 выданняў штогод.

Акрамя згаданай народнай літаратуры на беларускай мове, друкаваліся і каталіцка-рэлігійныя выданні. Выйшлі з друку 2 катэхізісы і "кніжка" пра дабраславёнага Андрэя Баболю.

Аднак ніводная літаратура не можа выйсці з дзіцячых пялюшак, покуль не з'явіцца свая інтэлігенцыя і покуль не будуць створаны навуковыя падмуркі. Разумеючы гэта, нешматлікая беларуская інтэлігенцыя, групуючыся ў вышэйшых навуковых установах Пецярбурга, заклала штомесячнае выданне "Маладая Беларусь", прысвечанае навуковым даследаванням мовы і краязнаўству а таксама палітычным і грамадскім пытанням.

Вось так выглядае сёння беларускі нацыянальна-культурны рух які нарадзіўся сярод шырокіх народных мас і жадае заняць належнае месца сярод іншых культурных народаў.

*W. A. Mloda Bialorus // Preglad Wilenski. 1912. 12(25) listopada. S. 6-7.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***





# Валачобнікі ў Ганчарах

Валачобніцтва - старажытны беларускі звычай, які меў месца падчас Вялікадня.

У пачатку свята валачобнікі абыходзілі сялянскія двары, спявалі гаспадарам валачобныя песні, велічалі гаспадара, зычылі яму і ўсёй сям'і шчасця, плёну на ніве, прыплоду ў статку. Затым валачобнікі гаварылі імправізаваныя віншаванні. Пасля гэтага гаспадары дзякавалі ім і давалі падарункі - "валачобнае" (яйкі, сыр, каўбасы). У мінулым лічылі, што валачобны абрад спрыяе ўраджаю, дабрабыту сям'і, засцерагае ад розных нягод.







Сёлета абрад "Валачобнікі" правёў творчы калектыў Ганчарскага дома культуры ў аграмястэчку Ганчары.

*ТК "Культура Лідчыны.*

# "Ідуць, гудуць валачобнікі"

22 красавіка ў Лідскім аддзеле рамёстваў і традыцыйнай культуры адбылася вечарына для гараджан "Ідуць, гудуць валачобнікі".







*ТК "Культура Лідчыны.*

# "Спазнай смак сваёй кухні"












23 красавіка ў аграмястэчку Беліца Лідскага раёна прайшло "смачнае" традыцыйнае брэндавае свята - раённы конкурс традыйных страў "Спазнай смак сваёй кухні".

***ТК "Культура Лідчыны.***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sejlawiczy@gmail.com, kajety@list.ru

Газета падпісана да друку 24.04.2023 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://kamunikat.org/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*